# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1695) ГОД XXXIII БЕЛАСТОК, 6 ЛІСТАПАДА 1988 г. ЦАНА 20 зл.




*Нінель Шчасная ў сваёй майстэрні.*

## Цяплом жаночай рукі...

Калі два гады таму назад мне давялося ўпершыню пераступіць парог майстэрні **Нінель Шчаснай** у Мінску (аб якой я чула шмат добрага ўжо раней), нешта прымусіла мяне затрымацца. На цэнтральнай сцяне, насупраць уваходу, вісела нязвыклая карціна, з якой тхнула прыгажосцю і болем, шчасцем і смуткам. І было яшчэ ў гэтай карціне нешта няўлоўнае, як бы за імглою, навеянае сюррэалізмам.

Замест гучных прывітанняў, я застыла ў маўчанні.

— А ведаеце, гэтую карціну на выстаўку не прынялі, — з жалем сказала тады мастачка, — адкінулі як малавартасную...

Карціна называлася „Толькі яго нявеста“ і была намалявана ў 1984 годзе. На фоне празрыстай беларускай прыроды сядзіць ля магільнага каменя, на якім высечана дата вызвалення Мінска — 3.VII.44 г., сумная жанчына. Маладая яна, ці старая?.. Цела яе свежае і моцнае, пругкія, некранутыя часам грудзі і жывот. Толькі твар перарэзаны маршчынамі цярпення ды валасы сівыя. Вэлюм яе, разveяны ветрам, застаўся быццам бы толькі ў яе марах... Можа, пад гэтым каменем пахаваны яе каханы, якога чакае яна ўжо больш сарака год... Толькі яго... Яе цела ў шлюбнай сукенцы, як і ўся прырода, якая яе акружае, чыстае і набрыняўшае чаканнем. І ў гэтым сваім цярпенні маладая шчаслівая, бо ў глыбіні душы ўсё яшчэ верыць, што ўбачыць свайго каханага: для яго ж засталася яна такой харошай і некранутай.

У гэтай адной карціне столькі экспрэсіі і адначасова столькі зразумення чалавечага лёсу! Аглядаючы яе, ды і іншыя карціны, як: „Налібоцкая пушча (камандаванне брыгады імя Шчорса)“, 1975; „Адзінокая (пасля вайны)“, 1968, цяжка паверыць ў тое, што Нінель Шчасная вайны не бачыла. Нарадзілася яна 55 год таму назад, 25 кастрычніка 1933 года ў старажытным беларускім горадзе Полацку, у настаўніцкай сям'і. Калі была яшчэ дзіцём, бацькі пераехалі на Смаленшчыну.

З маленства любіла маляваць.

(Працяг на стар. 6)

## ЭНЕРГІЧНА, ЗГУРТАВАНА, РАШУЧА

**СЛОВА СТАРШЫНІ ГП БГКТ АЛЯКСАНДРА БАРШЧЭЎСКАГА НА XI З'ЕЗДЗЕ БГКТ.**

Паважаныя сябры!

На перыяд дзесятага скліканвя ў жыцці БГКТ прыпалі такія падзеі, як 40 гадавіна ўзнікнення Народнай Польшчы, 30 гадавіна БГКТ і 30-годдзе літаратурнага аб'яднання „Белавежа“. Якраз гэтыя факты і леглі ў аснову многіх нашых мерапрыемстваў, а перш за ўсё фэстынаў, семінараў, канферэнцый, дакладаў і аўтарскіх сустрэч. Аднак, апрача гэтых знамянальных падзей, БГКТ вяло на працягу чатырох гадоў звычайную дзейнасць, займаючыся перш за ўсё чатырма прыярытэтнымі галінамі: беларускай асветай, літаратурным і аматарскім рухам, Беларускім музеем.

Хачу сказаць, што Прэзідыум Галоўнага праўлення БГКТ правёў цэлы рад сустрэч з прадстаўнікамі розных улад, перад якімі ставіў усе тыя праблемы, якія перашкаджаюць жыць і развівацца беларускай нацыянальнай меншасці ў Польшчы. Былі спатканні з сакратарыятам Ваяводскага камітэта ПАРП у Беластоку, з намеснікам старшыні Рады Дзяржавы Тадэушам Шэляхоўскім, са старшынёй Краёвай рады Патрыятычнага руху нацыянальнага адраджэння Янам Дабрачынскім, з віцэ-міністрам культуры і мастацтва Казімежам Цлапкам, з Беластоцкім ваяводам Мар'янам Галам, са старшынёй Нацыянальнай рады культуры праф. Багданам Сухадольскім, з дырэктарам грамадска-адміністрацыйнага дэпартамента МУС Ежы Зарэмбам. У часе сустрэч ставіліся справы беларускіх паслоў у Сейме, аднагадзіннай беларускай перадачы па радыё, ганарараў для беларускіх аўтараў, трактоўкі беларускай мовы нароўні з іншымі прадметамі (там, дзе жыве больш як 50 прац. беларусаў), прысутнасці беларускай праблематыкі ў сродках масавай інфармацыі.

Мушу з сумам прызнацца, што большасць гэтых пастулатаў, нягледзячы на іх слушны характар, не рэалізавана і што гэта цяжкое бярэмя пяройдзе на ўлады БГКТ, якія выбярэм на сённяшнім з'ездзе.

Калі гаворым аб нашых кантактах з прадстаўнікамі ўлад, нельга абыйсці маўчаннем нацых суадносін з савецкім тава-

(Працяг на стар. 2)




## ТРЭЦЯЯ АЎТАРСКАЯ СУСТРЭЧА.

Апошняя мая сустрэча з амерыканскімі гледачамі і слухачамі адбылася ў Кліўлендзе ў „Полацку“. Калі я яшчэ быў у Нью-Йорку, пазваніў мне з Кліўленда Кастусь К. і спытаў, якую тэму даклада ён мае апублікаваць на запрашэннях. Я яму запрапанаваў тры тэмы. Кастусь К. выбраў тэму: „Беларуская народная меншасць у Польшчы — учора і сёння“. Так яно і сталася. Выступіў я з такой асноўнай тэмай. З асноўнай, але не адзінай. Гаварыў таксама аб паэтычнай творчасці і дэкламаваў свае вершы.

Можа варта сказаць і аб тым, што згодна з традыцыяй „Полацка“ заўсёды культурным мерапрыемствам спадарожнічае таксама добрая ежа і выпіўка. На гэты раз усё было задумана з вялікім размахам. Кліўлендцы купілі вепрука і два дні перад сустрэчай яго вэндзілі. Запах разыходзіўся амаль на ўсе восем гектараў „полацкавай“ тэрыторыі.

Быць можа, не ўсе чытачы ведаюць аб тым, што аўтар не заўсёды добра сябе адчувае ў часе спаткання са слухачамі. Адносіцца гэта і да мяне. Нярэдка здараецца такое, што я вельмі незадаволены сабою пасля аўтарскай сустрэчы. Маю да сябе прэтэнзію за тое, што не ўсё сказаў, што хацеў, і не так, як хацеў. Бывае і горшае. Выступае яно тады, калі дэкламуючы вершы, забудзеш некалькі разоў тэкст, або саб’ешся з панталыку.

На гэты раз нішто такое не здарылася і я сказаў болей-меней што хацеў і як хацеў. Можа, было гэта вынікам атмасферы. Вёў жа сустрэчу мой стары знаёмы Сяргей К., які, зрэшты, на некалькі тыдняў перад кліўлендскай сустрэчай быў у Варшаве.

Пасля майго даклада і прачытаных вершаў, прысутныя закідалі мяне пытаннямі. Пытанні былі вельмі разнастайныя. Падам для прыкладу, што спыталі мяне, ці з’яўляюся я сваяком беларускага пісьменніка з першай паловы XIX стагоддзя Яна Баршчэўскага. Другое нечаканае пытанне было такое: „Ці не перашкаджаюць вам саветы развіваць беларускую дзейнасць на Беласточчыне?“

Я сказаў, што не толькі не перашкаджаюць, але і памагаюць, што гэта дапамога праяўляецца ў тым, што савецкія вучоныя выкладалі на працягу чатырох гадоў на Кафедры беларускай філалогіі ў Варшаўскім універсітэце, што кожны год Мінск прымае на месяц дваццаць настаўнікаў беларускай мовы з Беласточчыны, што прысылаюць нам многа літаратуры. А на гэта нехта з залы:

— Так, але гэта літаратура камуністычная!

Давялося выясняць, што розная, бо атрымліваем і Дуніна-Марцінкевіча і Багушэвіча, якія камуністамі не былі. Трэба, аднак, сказаць, што не пытанні такога тыпу акрэслілі характар спаткання, якое, на маю думку, было для ўсіх сустрэчай карыснай.

Я не раз хваліўся тым, што на маё аўтарскае спатканне ў Англіі ехаў адзін слухач аж 200 кіламетраў. Гэтым слухачом быў наш зямляк, жыхар з Пасынак Янка Ясвіловіч. Цяпер магу хваліцца, што на маю аўтарскую сустрэчу ў Кліўлендзе праехалі тры беларусы семсот кіламетраў, так яно сапраўды было. А гэтымі беларусамі-энтузіястамі аказаліся Сцяпан Прахарук з Зубава, Аляксандр Кананові з Макаўкі і Аляксандр Шаршуновіч з Бярнацкага Моста. Прыехалі яны, зрэшты, з іншай краіны, з Канады.

Я быў перакананы, што гэтых хлопцаў я ніколі не бачыў. Аднак, высветлілася, што яно не так. Пасля мяне выступіў Аляксандр Шаршуновіч і сказаў, што семнаццаць гадоў таму назад я выступаў у школе ў Старым Ляўкове, у якой ён тады вучыўся. Найбольш дзіўнае было тое, што Шаршуновіч слова ў слова паўтарыў тое, што я семнаццаць гадоў таму назад гаварыў у стараляўкоўскай школе. Зразумела, што гэта не магло мяне не ўсхваляваць.

Даўжэйшая размова з Шаршуновічам даказала, што гэты малады чалавек цэлай сваёй істотай адданы беларускай справе. Шаршуновіч моцна перажывае ўсё, што спалучаецца з беларускасцю як у Канадзе, так і на Беласточчыне. Сказаў ён мне, што актыўна ўключыўся ў рэалізацыю ідэі беларускага фестывалю ў Канадзе. З гэтай нагоды прагне ён разам са сваімі сябрамі запрасіць у Канаду наш слаўны калектыў з Дубіноў. Калі Шаршуновіч толькі давedaўся, што Беларускае таварыства, Беларускі музей і Кафедра беларускай філалогіі зацікаўлены малой камп’ютэрнай друкарняй, абавязаўся зрабіць усё, каб сабраць сродкі і такую друкарню нам падарыць. Шаршуновіч праявіў ахвярнасць і ў адносінах да Беларускага музея ў Гайнаўцы. Уручыў ён мне 100 долараў у фонд музея. Далажылі па 20 долараў таксама Сцяпан Прахарук і Аляксандр Кананові. Дзякую вам, сябры, за тое, што чужына не забіла ў вашых сэрцах беларускага. Хай вядзецца вам як найлепш у далёкай Канадзе!

**Алесь Барскі**

(Працяг са стар. 1)

## ЭНЕРГІЧНА, ЗГУРТАВАНА, РАШУЧА

рыствам „Радзіма“. Як вядома, гэта арганізацыя на працягу многіх гадоў займалася толькі беларусамі, якія знаходзяцца на Захадзе, і не праяўляла ніякага зацікаўлення беларусамі ў Польшчы. Цяпер гэта сітуацыя перамянілася. Я і Канстанцін Майсеня мелі некалькі сустрэч з прадстаўнікамі „Радзімы“ ў Мінску. Апрача гэтага, прадстаўнікі „Радзімы“ нанеслі нам візіт на Беласточчыне. У часе гэтых спатканняў акрэслілі мы формы нашага супрацоўніцтва. Не можа нас не цешыць перспектыва гэтага супрацоўніцтва. Ведаем, што кожны год „Радзіма“ накіруе ў вышэйшыя ўстановы БССР трох выпускнікоў беларускіх ліцэяў у Польшчы. Апрача гэтага запросіць яна кожны год 3-4 нашых пенсіянераў у савецкія дамы адпачынку. На запрашэнне „Радзімы“ будуць ездзіць у БССР нашы вышывальніцы, дзеячы аматарскага руху, дзеячы БГКТ. Наступіць абмен матэрыяламі паміж „Нівай“ і „Голасам Радзімы“. Не можам не падтрымаць прыгожую ідэю „Радзімы“ адносна арганізацыі ў Польшчы фестываляў, у якіх прымалі б удзел нашы мастацкія калектывы і калектывы з БССР, а таксама з Амерыкі і Канады.

А цяпер, сябры, можам перайсці да спраў асветы. Усе ведаем аб тым, што ў сямідзесятыя гады больш дзесяці тысяч вучняў на Беласточчыне вывучала беларускую мову. Сёння стан гэты знізіўся да чатырох тысяч. Ёсць і такія асобы, якія схільны ўсю віну за гэта скінуць на БГКТ, хаця вядома, што школьніцтва знаходзіцца па-за кампетэнцыямі Беларускага таварыства. Зрэшты, абвінавачваюць нас тыя, хто ні разу не паехаў у тыя мясцовасці, дзе не вывучаецца беларуская мова, і таму не ведае, як цяжка змагацца з беларускім нігілізмам і беларускай абыякавасцю. Зразумела, што поўнасцю вырашала б праблему такая трактоўка беларускай мовы, як польскай і рускай моў, а таксама іншых прадметаў. На жаль, пастулат у гэтай справе да сёння не вырашаны. У такой сітуацыі, і так як гэта было і дагэтуль, мусім ездзіць да вучняў і іх бацькоў і пераконваць іх у патрэбе вывучэння роднай мовы. Нялёгкае гэта заданне, але ніхто яго за нас не выканае. І таму звяртаюся да нашых актывістаў, да настаўнікаў, каб памаглі нам у гэтай высакароднай акцыі.

Не без болю ў сэрцы гавару аб беларускім літаратурным руху ў Польшчы. Усім вядома, як дынамічна развіваўся гэты рух, аж восем нашых „белавежцаў“ было прынята ў лік членаў Саюза польскіх пісьменнікаў. Пры гэтым, аднак, вядома, што ўжо каля пяці гадоў беларускія аўтары ў Польшчы не атрымліваюць за сваю творчасць ганарараў. На жаль, гэтай балючай праблемы нам не ўдалося вырашыць. На працягу апошніх чатырох гадоў мы выдалі толькі адну кнігу — „Пожню“ Васіля Петручука. Перспектывы на найбліжэйшы перыяд не найлепшыя, хаця трэба сказаць, што ў апошнія месяцы атрымалі мы дазвол на выданне далейшых трох кніг, аднак зноў без ганарараў.

З радасцю мусім сказаць, што з вялікай дапамогай прыходзіць у гэтай справе савецкае выдавецтва „Мастацкая літаратура“, якое намервaецца ў бліжэйшы час выдаць кнігі чатырох нашых аўтараў.

Калі гаварыць аб літаратурным аб’яднанні, дык нельга не сказаць некалькіх добрых слоў аб міжнароднай навуковай канферэнцыі, прысвечанай „Белавежы“, на якую апрача краёвых вучоных прыехала чатырох даследчыкаў з БССР і адзін з ЗША. Гэта было сапраўднае свята беларускага слова ў Польшчы.

Бадай што найбольш пахвальных слоў можна сказаць аб беларускім аматарскім руху. Не можа не цешыць лік нашых калектываў і перш за ўсё мастацкі ўзровень. Радуе і зацікаўленне гадавымі аглядамі „Беларуская песня“, якія праводзяцца ў найбольшай зале Беластока — філармоніі. Асабліва прыгожы і атракцыйны быў апошні агляд, на якім прысутнічаў вельмі добры калектыў з БССР — „Лявоны“ з Воранава.

Удалося нам, дзякуючы прыхільнасці Міністэрства культуры, атрымаць больш як 20.000 трансферовых рублёў для куплі 122 строяў на выспецыялізаванай фабрыцы ў Мінску. Гэтыя касцюмы прынамсі ў пэўнай ступені вырашаць праблему вопраткі для нашых харыстаў. Аднак найважнейшая справа, якой не можам не захапляцца, гэта пастава ўдзельнікаў нашых калектываў, якія адзначаюцца вялікім энтузіязмам і вялікай самаахвярнасцю. Не магу тут не пакланіцца і не падзякаваць гэтым цудоўным людзям.

І ўрэшце справа Беларускага музея, які стаўся новай якасцю ў дзейнасці нашага таварыства. Галоўны цяжар, звязаны з пабудовай, узяў на сябе сябра Канстанцін Майсеня. Зроблена вельмі многа, але перад намі яшчэ многа работы, якой не выканаем да канца без ахвярнасці ўсіх. На жаль, многія сярод беларускіх дзеячоў праяўляюць у гэтай справе поўную абыякавасць. Няхай гэта ляжа ганьбай і сорамам на іх сумленне. Не магу тут устрымацца, каб не падзякаваць беларусам з Аўстраліі, Англіі, Бельгіі, а перш за ўсё з ЗША і Канады, якія дагэтуль унеслі ў фонд пабудовы Музея 12.000 долараў. Без гэтай дапамогі мы мусілі б ужо затрымаць пабудову Музея, бо наш доўг будаўнікам на сённяшні дзень складае сем мільёнаў злотых. На шчасце, удалося нам атрымаць з Міністэрства фінансаў дазвол на продаж долараў па найвышэйшых вольнарынкавых цэнах. Вось з гэтым і звязваем надзею на прадаўжэнне пабудовы Беларускага музея, хоць фінансавыя патрэбы ў гэтай галіне вельмі вялікія.

У гэтым месцы хацеў бы я закрануць праблему, аб якой яшчэ ніколі ніхто не гаварыў на дзесяці папярэдніх з’ездах БГКТ. Маю на думцы беларускую эміграцыю. Паводзілі б мы сябе нелаяльна і нягодна, калі б працягвалі ў іх бок адну руку і прасілі дапамогі для нашых мерапрыемстваў і ў той жа час другую руку заціскалі ў кулак і стараліся нанесці па эміграцыі ўдар. Знаходзячыся многа разоў на Захадзе, я пераканаўся што многія, многія эмігранты гэта верныя сыны і дочкі Беларусі, якія па сённяшні дзень не здрадзілі ні беларускай мове, ні беларускай традыцыі, ні беларускай культуры. А тое, што беларускія эмігранты маюць свае ўласныя палітычныя по-

(Працяг на стар. 11)



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 353


## ГАЛІНА ДУБЯНЕЦКАЯ



**Галіна Дубянецкая нарадзілася ў 1962 годзе ў Мінску. Закончыла Мінскі педагагічны інстытут замежных моў па спецыяльнасці англійскай і французскай. З гэтых моў перакладае на беларускую паэзію. Працуе ў Інтытуце літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР. Свае вершы друкавала ў „Маладосці“, „Беларусі“, „Днях паэзіі“ і іншых літаратурных часопісах.**

### ПАЭТЫЧНАЯ ХВАРОБА

Прывід казкі варушыць пялёсткамі,
Навявае водар уплёскамі,
Ад начэй адбірае змрок,
Дні туманам замгляе знарок,

Смокча сілы з душы без літасці...
О, якую б замову вынайсці,
Каб растала рухомая муць,
Каб дазволіла ў квет зазірнуць?

Бачна ў квеце раса каляровая,
Як трапляе ў святло месяцовае —
Ды няможна той келіх схапіць
Ды расы тае хмельнай адпіць.

Зелле ўспыхвае, фарбы мяняюцца,
І адрозніць выпала мне:
„Вецер дужае, хвалі ўздымаюцца,
І калышуцца пэрлы на дне...“

І — туман. Больш ні знаку не высветліць.
Як жа казку з палону вызваліць?
Ледзьве месяц выплыве зноў —
Пачынаюцца ловы слоў.

„Вецер дужае, хвалі ўздымаюцца...“
Што ж далей там, у збеглым тым сне?...
Нізка крохкая разрываецца —
„І калышуцца пэрлы на дне“.

Таямніца ў-пупышку сцінаецца,
Неспазнаная, ў сэрцы жыве.
Дзядзька Колас у вус пасміхаецца,
Шызы голуб на галаве.

### КУПАЛЛЕ

Дзень яснакрылы веі стуляець,
Травы малітваю водар ліюць.
Дзеці Ярылы спеў пачынаюць,
Шэрыя цені з багны ўстаюць.

Ноч сінякрылая ў месячным чоўне
Выплыла зоркі-лілеі збіраць.
Дзеці Ярылы выкрэсваюць промні,
Шэрыя цені воддаль дрыжаць.

Хорам адкрылі, скінулі сходні
З вышаў свяцілы на вогкі мурог.
Дзеці Ярылы ўзнімаюць паходні,
Шэрыя цені вартуюць мрок.

Плоймы жарынаў пад неба шугаюць,
Вось-вось уголас адкажа Сусвет.
Дзеці Ярылавы Кветку шукаюць,
Шэрыя цені цягнуцца ўслед.

Рання вятрылы срэбрам нальюцца,
Браце, ў тумане са шляху не збоч.
Дзеці Ярылы за рукі бяруцца,
Шэрыя цені хаваюцца ў ноч.



### РАЗВІТАННЕ З ЛЕТАМ

Прыліпшы да акна ў вагоне,
Співаю зрокам сум палёў,
Лета ляжыць ўжо у адхоне.
Калі памерла? Хто ізноў
Паспеў нацешыцца ім ўдосталь,
Каму ласкавае было? Ах, Лета!
Пачакай хвіліну —
Чаму так хутка працвіло!

Цягнік маланкай дзесь імчыцца
— лета дагнаць? Ужо магчыма толькі ў сне.
Цягнік жыцця, ты не спяшайся,
Яшчэ належыцца штось мне!
Яшчэ чакаю прагна шчасця,
Яшчэ не выпіла да дна
Лёсам налітага мне ў чарку
Горка-салодкага віна.

**А. Аніпэўская**

## АГАРОДНІКУ

Кветкі твае, як дзеці,
растуць цудоўна ў агародзе.
Вадой крынічнай ты ўсе поіш
на акуратных градках.

Сонца цалуе іх, а ветрык
сардэчнай абнімае ласкай.
Людзям яны, як песні,
няхай прыносяць славу!

Агароднік, кветкі ты заўсёды
даглядай і сцеражы, ды ведай:
Штодня ім прыглядацца трэба
глыбінёй празрыстай зрэнак.

Бо толькі як задумаешся
або адвернешся, то зараз
пустазелля хмары,
як варвары,
блакітнае закрыюць неба.

**Юрка Баена**

## РОЗДУМ НАД КАЛЫСКАЙ

*Каля калыскі шчаслівыя маткі*
*мовы цураюцца — і аніґадкі.*
*На братняй гавораць прачулыя словы*
*да беларусікаў белагаловых.*

*Д. Бічэль-Загнетава*

Дык пачынаецца ўжо ад калыскі.
Дзеці з матулі сваёй малаком
Не высысаюць айчыннае, блізкай,
Мовы сваёй беларускай. Як ком

Будзе яна ў горле вязнуць ім потым,
І называць яе стануць чужой,
І вывучаць ім не прыдзе ахвота,
Братнюю мову прызнаюць сваёй.

Без роднай мовы сваёй беларускай
Як жа жыць можа мой кроўны народ?
Ён жа не звер, не нямая ён гуска,
Каб мог без мовы ўміраць з году ў год.

Апамятайся, народзе мой мілы,
Мовы айчыннай сваёй не кідай!
Калі не хочаш стаяць над магілай —
Мову шануй і шануй родны край!

**Віктар Швед**

**Віктар Варшыльскі**

### ФАШЫСТОЎСКІЯ ДЗЯРЖАВЫ

Неўзабаве пасля вайны 1914—1918 у Еўропе ўзніклі першыя
фашыстоўскія дзяржавы У гэтых дзяржавах
сонца ўзыходзіла і заходзіла ў звычайную пару апраменьваючы
дахі сяліб і ўзгоркаў зялёны схіл У аборах
лагодна рыкала быдла Мацяркі на досвітку
будзілі дзяцей цалуючы іх у лоб Бацькі вярталіся з работы
з радаснай стомай у касцях удыхвалі
дым хатняга ачагу а пасля абеду
засыналі ў фатэлі альбо майстравалі ўпарта альбо таксама
з запалам ігралі Дзеці
гулялі ў схованкі ў лапту і ў коніка Малым
дзяўчынкам вырасталі грудзі і дзяўчынкі з дня ў дзень
змяняліся ў вялікіх дзевак поўных шэптаў
шолахаў бы дрэвы ў лесе хіхікання раптоўнага ад якога
хлопцам рабілася суха ў горле Летнімі вечарамі
на заслонках падсветленых знутры зыходзіліся цені
разыходзіліся і зноў зыходзіліся закахана А ўзіму
закаханыя ўдыхвалі вуснамі пару з вуснаў ва ўснежаных агародах
І яшчэ
можна ўпамянуць пра катоў што выгібваліся каблуком пра вераб'ёў
што ўзляталі над вуліцаю пра старых на захаце пра кветкі
зрэзаныя і ў вазоніках пра медсясцёр
што падавалі хворым градуснік пра людзей з мятлою
што замяталі вуліцы Пра драўніну
што рассыхалася ў баразне ў полі набрынялую вецер
у зарасніках І яшчэ можна
шмат пералічыць з'яў якія сведчаць што
Бо ж не было знакаў на небе жалобных камет
вады ў кроў змененай палыхаючых кустоў бо ж
жыццё праходзіла звычайна таму сапраўды ў дзяржавах гэтых шмат было
людзей звычайных і людзей добрых і такіх якія
не ведалі аб нічым і якім
не прыходзіла ў галаву і якія
не адчувалі сябе супольна вінаватымі і якія
не мелі з гэтым нічога і якія нават
не чыталі газет або таксама чыталі нядбайна занятыя
думкамі аб тым што трэба паладзіць
працякаючы дах даць
чаравікі шаўцу пасватацца выпіць
куфаль піва вымяшаць фарбы запаліць свечку і якія
сапраўды не спасцерагалі страху ў вачах суседа не
чулі як дрыжыць голас у пытаючага пра дарогу не
спасцерагалі розніцы не чулі
голасу ў сабе альбо калі
здагадваліся чагосьці не маглі нічога зрабіць і пацяшаліся
кажучы Мы дык хаця
не робім нічога дрэннага жывем як жылі заўжды Што было праўдаю
А ўсё такі былі гэта
фашыстоўскія дзяржавы

Пераклаў з польскай
**Сакрат Яновіч**
(Са зборніка *„Знікненне гатункаў“*, 1970 г.)




## РЭВАЛЮЦЫЯ І КОНТРРЭВАЛЮЦЫЯ

Нядаўна вы перадрукавалі са „Звязды“ вялікі артыкул „Рэвалюцыя і контррэвалюцыя“. Што ж, у нас ён таксама выклікаў вялікі рэзананс. Але зусім неадназначны. Як можна расцэньваць, напрыклад, выпады супраць Ластоўскага, супраць Ларысы Геніюш? Я напісаў у „Звязду“ і пішу вам: уявіце сябе на месцы Ларысы Геніюш. Вы сумленна працуеце дзеля шчасця свайго народа, вы нічога крымінальнага не зрабілі, а вас штодня цягаюць у НКВД. Вы назіраеце, як гіне мова, як невядома куды знікаюць вашы знаёмыя, сябры, вядомыя дзеячы культуры. І тут прыходзіць з войскамі Гітлер. А між іншым 10-ы том „Малой Савецкай Энцыклапедыі“ з 1938 года піша пра яго, як пра „віднага еўрапейскага палітыка, дзеяча нямецкага рабочага руху“. І гэты Гітлер здымае забароны з мовы, з нацыянальных сімвалаў.

Як было не памыліцца такім, як Геніюш? Ці можна абвінавачваць іх, што яны радаваліся вызваленню ад бальшавізму, калі пад гэтай назвай яны перажывалі сталінізм?

Не ведаю, ці правільна вы зрабілі, перадрукаваўшы гэты артыкул. Ён цікавы, але надта спрэчны, тэндэнцыйны. У гэтым сэнсе хацеў бы звярнуць вашую ўвагу на № 9 часопіса „Нёман“. Там ёсць артыкул Анатоля Сідарэвіча „Экскурс у гісторыю...“. Там і Ластоўскі не выглядае „ворагам беларусаў“, і імёны іншых дзеячоў культуры не заплямлены, і ёсць сапраўдны клопат пра вырашэнне нацыянальнага пытання на Беларусі. Вось яго б лішні раз перадрукаваць!

Праўда, часопіс „Нёман“ — рускамоўны. Але хіба цяжка перакласці? Тым больш такі артыкул, дзе крычаць самі факты, а не стомленыя хлусней навукоўцы.

**Вітаўт Мартыненка, Мінск**

**Ад рэдакцыі:** Перадрукоўваючы за „Звяздой“ матэрыялы „круглага стала“, які адбыўся на гістарычным факультэце БДУ імя Леніна ў Мінску („Вырашэнне нацыянальнага пытання ў Беларусі: рэвалюцыя і контррэвалюцыя“, „Ніва“ № 36-38) хацелі мы паказаць нашым чытачам пачатак звароту, які пачынае адбывацца ў афіцыйнай савецкай гістарыяграфіі. Час перабудовы і яўнасці спрые новаму падыходу да тых гістарычных падзей, з'яў і асоб, якія раней ацэньваліся адмоўна, а ў сапраўднасці несправядліва. Дыскусія даказвае, што зараз гісторыкі прэзентуюць самыя розныя, часта тэндэнцыйныя погляды на навейшую палітычную гісторыю Беларусі і што гістарычныя навукі павінны па-новаму падыйсці да нацыянальнага пытання. Не было намерам рэдакцыі дыскрэдытаваць культурных і незалежніцкіх дзеячоў. Наша рэдакцыя зацікаўлена публікацыяй матэрыялаў, кранаючых складаныя праблемы нашай нацыянальнай гісторыі і будзем, час ад часу, перадрукоўваць цікавыя артыкулы з савецкай перыёдыкі.

**В. Луба**



СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ

*Стары Беласток. Вул. Мазавецкая. Мал. У. Петрука.*

## БУДУЕМ ЛІЦЭЙ!

**Грамадскі камітэт пабудовы Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы паведамляе, што ўжо адкрыты рахунак на ўплаты ў замежнай валюце. Ахвяраванні ў замежнай валюце можна надсылаць на адрас: Społeczny Komitet Budowy LO z bjn w Hajnówce. Narodowy Bank Polski, Oddział w Hajnówce, ul. 1 Maja 34 Nr konta 5151.**

Гавораць нашы карэспандэнты




Адзін з першых карэспандэнтаў „Нівы“. Яго сувязь з намі сягае 1956 г., калі мы ўзяліся за будаванне гмаху нашай нацыянальнай свядомасці. Калі пачалі складаць цаглінкі гэтага гмаху. Валодзя ў 16 год падключыўся адразу. Цяпер ён перажывае перыяд нейкага застою ў пісанні, хаця дзейнічае на беларускай ніве па-даўнейшаму.

Жыве ў вёсцы Кузава, а працуе на станцыі Чаромха.

— Валодзя, вы пра многіх пісалі ў сваіх карэспандэнцыях. Давайце ж цяпер пагаворым пра вас. Якія былі пачаткі вашай багатай і бурнай у свой час карэспандэнцкай дзейнасці?

— Пачатак быў такі, што ў 1956 г., як толькі „Ніва“ паказалася на свет, я і кінуўся да яе як да сваёй газеты. У хуткім часе нарадзілася і „Зорка“ і яна, помню, аб'явіла конкурс на малюнак пра вайну. Я нарысаваў малюнак на тэму здарэння ў нашай хаце — у час акупацыі партызаны стралялі ў немцаў і аднаго забілі. Я нарысаваў нашу хату знутры і ляжачага на падлозе немца. Малюнак гэты, напісаўшы некалькі слоў, паслаў у рэдакцыю „Зоркі“. Пры-

Тыдзень у БССР




Аляксей Карпюк, вядомы беларускі пісьменнік, пражываючы пастаянна ў Гродне, паслухаўшы, што мяне цікавяць жыццё і справы гродзенскіх палякаў, коратка, камандзірскім тонам заявіў:

— Вось і добра. Сёння ў сем вечара тутэйшыя палякі якраз і збіраюцца на сустрэчу з Барбарай Ваховіч.

Яна — вядомы журналіст, таленавітая пісьменніца, вопытная актрыса, а перш за ўсё нястомны шукальнік слядоў, астаўшыхся ад жыцця і творчасці самых славутых польскіх пісьменнікаў.

Да вечара заставалася яшчэ шмат часу. Хацелася пабачыць горад, у якім я дагэтуль яшчэ ніколі не бываў. Але як? Аднаму? Рашыў пакарыстацца дапамогай сяброў-журналістаў з „Гродненской правды“. Прыняў мяне намеснік галоўнага рэдактара **Язэп Іванавіч Багіно.** І адразу загаварыў са мною па-беларуску. Я з прыемнасцю заўважыў у яго на стале навейшы нумар нашай „Нівы“.

— Ай, што за бяда! — развёў рукі Язэп Іванавіч. — Якраз няма на месцы аніводнай рэдакцыйнай машыны, але зараз мы нешта прыдумаем...

І, сапраўды, прыдумалі. Неўзабаве ля пад'езда Дома друку стаяла новенькая лада-самара. На яе дзвярах здалёк можна было прачытаць надпіс: **Тэлебачанне.** За рулём сядзеў старэйшы чалавек, які, вітаючыся са мною, назваў сваё імя і імя па бацьку. Я дачуў толькі, што ён Генрык і загаварыў да яго па-польску.

— Так, я паляк з дзеда-прадзеда, — адказаў ён мне таксама на чыстай польскай мове, нават без гэтага прыспеву, так характэрнага для ўсходніх палякаў. Пан Генрык нарадзіўся і выхаваўся ў адной з прыгранічных вёсак на Нёманшчыне, але Гродна ведае як свае пяць пальцаў. І не то, што ведае, дзе і як праехаць, але аб кожным выдатнейшым архітэктурным — гістарычным і сучасным — помніку апавядаў мне як найлепшы праваднік, як найбольш вопытны гід.

Звесткі пра Гародню датуюцца XI—XII ст.ст., а найбольш трывалым сведкам гэтай даўніны, безумоўна, з'яўляецца **Барысаглебская царква,** званая ў народзе **Каложай.** Царква пабудавана на высокім беразе Нёмана яшчэ ў палове XII ст. На жаль, толькі палавіна яе муроўкі пратрывала ўсялякія нягоды.

Ад Каложы паехалі мы на Замчышча... І так па ўсяму гораду, па гісторыі і сучаснасці.

— А магілу Элізы Ажэшка пан не пажадаў бы наведаць? — запытаў у мяне пан Генрык. І неўзабаве спыніліся мы ля варот старых могілак. Памяць аб выдатнай польскай пісьменніцы ўвекавечваў просты, хаця і салідны крыж з чорнага мармуру, а аб'ём магілы вызначалі чатыры, таксама мармуровыя стоўбікі, спалучаныя металічнымі прутамі. І два надпісы на польскай мове: вышэй — **„Станіслаў Нагорскі, 1826—1898“.** Гэта пра яе шматгадовага сябра, наканец і мужа. І ніжэй — **„Эліза Ажэшкова-Нагорска, 1841—1910“.** Ды кветкі, цэлы дыван жывых кветак, якія тут садзіць і даглядае гараднянка **Валерыя Барэвіч** і яе ўся сям'я. А кветкі ў вазачцы, гваздзікі, таксама свежыя-свежыя, яны ад Барбары Ваховіч, якая завітала ў Гродна, каб павандраваць слядамі аўтаркі „Над Нёманам“.

Яе сустрэча была наладжана ў прасторнай актавай зале Гродзенскага універсітэта. Знаходзілася там некалькі соцень чалавек. І слухалі яны, быццам зачараваныя. Барбара Ваховіч, стоячы ля мікрафона, быццам найлепшая артыстка, вадзіла сваіх слухачоў па жыццёвых сцежках Генрыка Сянкевіча, Стэфана Жаромскага, Элізы Ажэшка... Без малейшага перапынку выступала яна дзве гадзіны. А што сказ, дык і заклік, каб не забываць сваёй мовы роднай, каб не адварочвацца ад культурнай спадчыны бацькоў і дзядоў... Польскі мы люд, пястоўскі, ягелонскі... У адказ стыхійна, ад сэрца, узнімаліся шчырыя воплескі, ладкавалася псіхічная еднасць.

Я ўціснуўся ў крэсла ў другім радзе. Сядзеў, слухаў і апладзіраваў пані Ваховіч разам з усімі, але ў душы адчуваўназойлівы смутак. Ці ў нас, у Беластоку, змаглі б мы сабраць аж столькі беларусаў на сустрэчу з найбольш слаўным беларускім пісьменнікам ці дзеячом культуры? Ясна, гродзенскія палякі перажываюць пакуль што ўздым сваіх творчых і арганізацыйных магчымасцей.

Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Забава з пачастункам (малочны кактэйль і пірагі) у Рыбалаўскім доме культуры.
Фота Я. Чэрнякевіч

Барыс Сачанка




Тацянчынага Паўліка ўкусіла гадзюка. Укусіла знячэўку, калі хлопчык хацеў сарваць спелую гронку парэчак. Скокнуў ён у куст і адразу ж адчуў, як штосьці апякло пятку. Падняў нагу: выгінастая, пабітая на чорныя шашачкі спіна гадзюкі віхлянулася ў траве...

У бальніцы Паўліку зрабілі аж два ўколы. Маці здалося гэтага мала, і надвячоркам, на захадзе сонца, яна прывяла знахарку. Тая доўга і часта дзьмула на нагу і шэптам усё адсылала хваробу „на дрымучыя лясы, на голыя лозы, на быстрыя воды...“

Але хвароба не паслухалася яе — не захацела нікуды ісці. Ад гэтага нага распухла, зрабілася тоўстая і цяжкая, як бервяно.

І здарылася ўсё гэта якраз у тыя дні, калі ў лесе на дзялянках паспелі маліны. Хто б раней утрымаў у гэты час непаседу Паўліка дома! Прывяжы — і то ўцячэ. А так сядзіць ён ціха пад разгалістай яблыняй у садзе і думае-варожыць: насунецца вось той беласнежны сухмарак на сонца ці праплыве бокам. І такая маркота, такі сум, што хоць плач.

Яно каб былі кніжкі, дык час, можа б, і не так доўжыўся. Але ж за дні хваробы Паўлік усё прачытаў, нідзе ні староначкі непрачытанай няма.

Збегаць у бібліятэку ён не можа, а ў маці і без таго работы па самое горла: і свае грады трэба ад травы ратаваць, і на поле дзень пры дні хадзіць...

У садзе — гарачыня, асабліва ў абед. Пахне кропам, гуркамі. Гудуць, як на пасецы, пчолы.

Час ад часу Паўлік мочыць у місе з сыроваткай ручнічок і прыкладвае да апухлай нагі. Дзеля чаго гэта — хлопчык не ведае, але сказала маці, што так трэба, — і ён слухаецца...

Раптам з вуліцы чуецца голас:

— Паўлік, Паўлік, дзе ты?...

Хаця ад вуліцы пляцень густа абвіты хмелем і з саду не відаць, хто крычыць, але Паўлік па голасе пазнае: гукае Анютка — дзяўчынка, да якой пасадзіла яго зімою настаўніца, каб меней сваволіў.

У іншы час Паўлік, магчыма, і не адгукнуўся б на гэты голас. Але цяпер, калі ў яго баліць нага, а ніхто з аднакласнікаў яшчэ не прыйшоў праведаць, гэты голас узрадаваў яго.

— Я тут! — крычыць ён. — У мяне нага баліць, і я не магу адчыніць. Ты давай проста цераз пляцень!

— Добра, я зараз... — чуецца з вуліцы, і праз якую хвіліну белая ў чырвоныя бубачкі сукенка мільгае ў агародзе. Хаваючы адну руку за спіну, белагаловая дзяўчынка бяжыць па разоры ў сад.

— Ты чаму ж гэта сёння на луг не пайшла? — пытаецца Паўлік, як толькі дзяўчынка садзіцца побач.

— А мы па маліны хадзілі, — кажа яна і ўсміхаецца — густыя, белыя зубы на момант бянтэжаць хлапчука: у яго зубы яшчэ не ўсе памяняліся. — Бач якія, — і Анютка з-за спіны ставіць перад хворым гранёную шклянку спелых малін. Паўлік доўга прыглядваецца да ягад, і яго востранькі, абсыпаны ля кірпатага носа рабаціннем твар прыкметна ажывае.

— Відаць, у Дзедавых вырах брала, — кажа ён. — Такія толькі там растуць!...

— Умгу, — прызнаецца Анютка. — Еш, я табе прынесла. Успомніла пра цябе і прынесла. Ты ж хворы цяпер...

— Хворы, нага баліць.

— І моцна?

— Не, не вельмі каб, але ж у лес усё роўна няможна ісці, — крывячыся, быццам ад болю, адказвае Паўлік. Дзяўчынка замаўкае і ўжо ні на хвіліну не зводзіць вачэй з балючай нагі, калашына на якой закасана па калена, а лытка абкладзена мокрым ручніком. Потым кажа:

— Паўлік, а што, калі ты памрэш?

— Ну-у, выдумала, — смяецца Паўлік, забыўшыся, што ў яго шчарбаты рот. — Доктар казаў, што праз які тыдзень буду бегаць яшчэ лепей, чым бегаў... Вось толькі вельмі сумна аднаму...

— І мне сумна, — памаўчаўшы, прызнаецца дзяўчынка. — Як толькі цябе ўкусіла гадзюка, дык мне і сумна стала. І на луг хадзіла, і ў лес, а ўсё роўна сумна. Паўлік, хочаш, я толькі з табою буду сябраваць, як ты ачуняеш... Далібог, ні з кім, толькі з табою. Хочаш?

Але Паўлік не адказвае. Ён раптам успамінае: з іх кпілі аднакласнікі, калі яго перасадзіла настаўніца да Анюткі. Нават прыпеўку склалі:

(Працяг на стар. 10)

# ВЕРШЫ ВІКТАРА ШВЕДА

## ЗОЛАТА ВОСЕНІ

Лес раптам стаў увесь залаты,
Дадолу сыплюцца лісты.
Усюды іх так многа, многа...
Лісты нам сцелюцца пад ногі.
І сярод дрэў зямля кругом
Квяцістым стала дыванам.
І на хвіліну нам здалося,
Што ў казку прывяла нас
восень.

## БАБУЛІНЫ МАРШЧЫНЫ

Пытае матулю
Малалетні сын:
— Чаму ў бабулі
Так многа маршчын?

— Ты ведаць павінен:
Жыцця ўвесь цяжар
Пасеяў маршчыны,
Скамечыў ёй твар.

## ПАСПРАЧАЎСЯ МЛЫНАР З КАМІНАРАМ

Камінар па працы
Млынара сустрэў.
Пачалі спрачацца
Сярод парку дрэў.

Змагаліся вельмі.
У спрэчак разгар
Стаў млынар той чорным,
А белым — камінар.

## НАЙЛЕПШЫ ЗВАНОК

Тата пытае Колю:
— Скажы, сынок, мой свет,
Які найбольш у школе
Любіш ты прадмет?

Па шчырасці на гэта
Адказвае сынок:
— Найлепшы з прадметаў
У школе званок.

## ЧЫЯ Ў МАКАРКІ ГАЛАВА НА КАРКУ?

— Сказалі на занятках, —
Азваўся Макарка, —
Што маю тваю, татка,
Галаву на карку.

— Сказалі праўду лоўка,
Розум — твая сіла.
— Чыю ж тады галоўку
Ты носіш, татка мілы?

## КУРКА ЗАЗНАЙКА

Дзеці гуляюць у жмуркі
На панадворку вясковым.
З куратніка выбегла курка
З кудахтаннем адмысловым.

Пыхлівы хвалько і зазнайка,
Не мае ніякіх сакрэтаў.
Знясла незайздроснае яйка
І хваліцца прад цэлым светам.

## ДЗІРАВАЯ ІГОЛКА

Мама пачала сварыцца:
— Адкуль д'ябал родзіцца?
Зноў падраны нагавіцы,
Цыраваць прыходзіцца.

Прыглядаецца Міколка:
— Справа вось цікавая,
Дзіркі сшыла ўсе іголка,
А сама дзіравая.

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

### ЗАЧАРАВАНАЯ МАЯ

*Словы Г. Бураўкіна* *Музыка І. Лучанка*

*Патухаюць, цямнеюць выст,*
*Зоркі ўспыхваюць над сіняво́й,*
*Да пляча майго прытуліся*
*Залатою сваёй галаво́й.*

*Чуеш вецер і чуеш вечар,*
*Чуеш, ціха шапоча сад!*
*На твае худзенькія плечы*
*Асыпае ноч зарапад.*

ПРЫПЕЎ:

*Гэта я з табою вечарую,*
*Туманамі цябе я чарую,*
*Васількоў шапятлівою мовай*
*Зачароўваю, зачароўваю,*
*Закалыхваю я цябе.*

*І ад рук наўмелых, нясмелых*
*Не схаваешся ты нідзе.*
*Поўня белая яблыкам спелым*
*На далоні твае ўпадзе.*

*Ты шапнеш мне адчайныя словы,*
*Што шаптаў табе ўчора я,*
*Вечаровая, зачараваная,*
*Закалыханая мая.*

ПРЫПЕЎ.




# НІЎКА




### ВЫЙДЗЕ Ў ЛЮДЗІ

— Паночку, што я маю рабіць са ваім сынам? — Гэтакі няўдача: што не ступіць, то збрэша!

— Эт, няма чаго бедаваць! — Як падрасце, будзе рэдактарам газеты або адвакатам.

### ЧОРНАЯ ПЛЯМА

— Чаму гэта на месячыку нейкая чорная пляма, быццам хто сядзіць там?

— А гэта, бачыш, варона спазнілася нанач у хвайняк, дык па дарозе на месяцы заначавала.

### ХІТРЫ ЛЕКАР

— Скажы мне, чаму ты ў кожнага хворага гэтак дакладна пытаешся, што ён есць, — пытаецца жонка лекара.

— Бо, бачыш, я па адказе пазнаю, ці ён багаты, ці бедны, і ведаю, колькі прасіць за візіт.

### НА ВЯЧЭРУ...

Пані Алёна, якая нядаўна выйшла замуж, пытаецца ў сваёй маці:

— Мама, што ты робіш з абедам, калі ён бацьку не даспадобы?

— Я пакідаю яго на вячэру.



Хто спяшаецца, жыць, той і даплачвае за хуткасць.

### ЁСЦЬ І НЯМА

У „Біблії" сказана, што Бог нарабіў „кожнай твары па пары". Сучасныя эканамісты і палітыкі, многія выхаваныя атэістамі, пра гэта, пэўна, і не чулі. А калі чулі, то не запомнілі, альбо не захацелі запомніць. Але незалежна ад гэтага пары ўсё роўна існуюць. Напрыклад: мужчына і жанчына.

А ў сферы матэрыяльнай вытворчасці.
Ёсць хлеб — няма каўбасы;
ёсць кавамолкі — няма кавы;
ёсць зубныя шчоткі — няма пасты;
ёсць станкі для галення — няма лязо;
ёсць машына — няма запасных частак;
ёсць вакса — няма ботаў;
ёсць тэлебачанне — няма тэлевізараў;
ёсць шашлычніца — няма бараніны.

Такім чынам, рэчы, якія ёсць, непрыдатныя для тых, у каго няма блату ў гандлі і хто не можа знайсці ім пару. Пашукаем аналогіі ў сферы нематэрыяльнай.
Ёсць пісьменнік — няма таленту;
ёсць кліент — няма павагі;
ёсць гонар — няма сумлення.

Звузім праблему да первічнай ячэйкі грамадства — сям'і.
Ёсць жонка — няма кватэры;
ёсць кватэра — няма мэблі;
ёсць мэбля — няма шчасця;
ёсць шчасце — няма грошай;
ёсць грошы — няма тавару.

Ізноў кругаварот, і ўсё па парах, насланне нейкае. Нават там, дзе ёсць і тое, і другое. Напрыклад: ёсць дрожджы — ёсць міліцыя, ёсць кантора — ёсць бюракраты, ёсць гумар — ёсць начальнік без гумару.

**Паводле „Вожыка"**

### ШМАТ ПАЦЕХІ!

— Ну, як жа там, куме? — нехта пытае шаўца, які нядаўна ажаніўся ўжо трэці раз. — Як паводзіцца з новай жонкаю?

— Ну, як заўсёды з жонкаю, шмат пацехі... Часам яна кіне ў мяне збанком і не пападзе — тады я цешуся, то зноў я пушчу ў жонку капылом і прамахну — тады жонка цешыцца. Адным словам, шмат пацехі.

### ЦЕСЬЦЬ І ЗЯЦЬ

Цесьць зяцю: — Або аддай пасаг, або шануй маю дачку.
Зяць: — Зраблю наадварот: аддам табе дачку, а пасаг буду шанаваць.




Рисунок Сергея ТЮНИНА





Вось так гэта трэба рабіць.



А мой без мяне кроку зрабіць не можа!




Чалавек — дзіця прыроды, але часта забывае, што яна яго маці.